

# ВІЦЕБСКІ РАБОЧЫ

Абласная незалежная масавая газета

Выдаецца з лістапада 1917 г.

Аўторак, 30 лістапада 1993 г.
№ 153 (19288) Цана 15 руб.


## Падзеі. Факты. Каментарыі

◆ *У АБЛВЫКАНКОМЕ*

### Новыя тарыфы на пасажырскія перавозкі

У сувязі з чарговым павышэннем цэн на энерганосьбіты, павышэннем з 1 лістапада мінімальнай зарплаты, абмежаванасцю бюджэтных сродкаў і ў мэтах забеспячэння стабільнай работы пасажырскага транспарту аблвыканком устанавіў з 25 лістапада плату за праезд пасажыраў:

у гарадах і гарадскіх пасёлках у размеры 50 рублёў за адну паездку ў автобусе, тралейбусе і трамваі незалежна ад адлегласці, у тым ліку на прыгарадных маршрутах Полацк — Наваполацк;

за перавозку кожнага месца багажу, дазволенага да правозу на ўнутрыгарадскім пасажырскім транспарце, у размеры 100 рублёў;

на прыгарадных маршрутах за адзін пасажыра-кіламетр у размеры 10 рублёў у аўтобусах з цвёрдымі сядзеннямі і 12 рублёў у аўтобусах з мяккімі адкіднымі сядзеннямі.

**КОШТ месячных праязных білетаў для праезду на гарадскім пасажырскім транспарце**

Для грамадзян, прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў на адзін від транспарту — 3500 руб., на два віды — 4500, на тры віды — 5500 руб.; для навучэнцаў школ, прафтэхвучылішчаў і дзённых аддзяленняў сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў на адзін від транспарту — 750 руб., на два віды — 1250, на тры віды — 1500 руб.; для студэнтаў дзённых аддзяленняў ВНУ на адзін від транспарту — 1250, на два віды — 1500, на тры віды — 2000 руб.

**КОШТ месячных праязных білетаў на праезд у прыгарадных аўтобусах**

Да 5 км уключна — 2380 руб., звыш 5 да 10 км уключна — 3000, звыш 10 да 15 км уключна — 4000, звыш 15 да 20 км уключна — 4630, звыш 20 да 25 км уключна — 5380, звыш 25 да 30 км уключна — 6000 руб.

Льготныя месячныя білеты (імянныя) могуць прадавацца для паездак на адлегласць звыш 30 да 50 км уключна. у гэтым выпадку кошт месячнага білета павялічваецца дадаткова на 500 рублёў за кожны кіламетр звыш 30 км.

Вучням пачатковых, няпоўных сярэдніх і сярэдніх школ, якія пражываюць у населеных пунктах, аддаленых ад школ на адлегласць звыш 2 км, але не карыстаюцца правам бясплатнага праезду, а таксама вучням гэтых жа школ, якія адначасова займаюцца ў музычных школах і пражываюць у населеных пунктах, аддаленых ад музычных школ на адлегласць звыш 2 км, прадаюцца льготныя месячныя білеты (імянныя) для праезду ў аўтобусах прыгараднага і міжгародняга злучэння коштам 625 рублёў.

Кошт месячных праязных білетаў, якія рэалізуюцца прадпрыемствам, установам і арганізацыям для праезду ў аўтобусах прыгараднага злучэння, разлічваецца зыходзячы з тарыфу 500 рублёў за кожны кіламетр паездкі.

Быў час, калі вышэйшай адзнакай працоўнай і іншай доблесці лічыліся ордэны і медалі. Цэлыя газетныя старонкі займалі іншы раз спісы ўзнагароджаных. Цяперашнія перамогі адзначаюцца больш сціпла — у асноўным граматамі. І ўсё ж — прыемна. Прыемна, што і ў гэтай сумятні не губляюцца лепшыя з лепшых.

Днямі прэзідыум абласнога Савета народных дэпутатаў разгледзеў хадайніцтвы працоўных калектываў, грамадскіх арганізацый. За плённую працу ганаровымі граматамі ўзнагароджаны: Г.І.Пататурка

◆ *ВІНШУЕМ!*

### Звон медалёў нам толькі сніцца

— галоўны інжынер будаўнічамантажнага поезда № 715, І.А.Бараўкоў — старшыня Першамайскага раённага савета арганізацыі ветэранаў, Л.М.Салаўёў — старшыня камісіі па сацыяльна-бытавых пытаннях абласнога Савета ветэранаў, У.П.Мальчыкаў — уласны карэспандэнт Дзяржтэлерадыё Беларусі па Віцебскай вобласці, Т.А.Шафранава — выкладчык па класу балалайкі Віцебскага музычнага вучылішча, заслужаная артыстка РБ, Л.М.Стрыжонак — выкладчык па класу домры таго ж вучылішча, А.С.Ішукоў — намеснік старшыні Талачынскага райсавета народных дэпутатаў.

(Наш кар.).

### Усе «зоркі» ў Цілбургу

Буйны міжнародны турнір прайшоў у Цілбургу (Галандыя). За шахматныя столікі селі ўсе мацнейшыя шахматысты свету, акрамя Гары Каспарава. У гросмайстарскай кампаніі было трое з Беларусі — віцяблянін Андрэй Кавалёў, мінчане Барыс Гельфанд і Віктар Купрэйчык.

Турнір праходзіў па алімпійскай сістэме, саперніку вызначаліся па жэрабю. Яно не было літасцівым да беларускіх шахматыстаў. Усім ім трапілі ў першым матчы вядомыя майстры. І першы ж бар'ер стаў непераадольным для нашых землякоў. Андрэя Кавалёва "выбіў" з далейшай барацьбы югаслаў Нікаліч, які ў свой час з'яўляўся прэтэндэнтам на сусветную шахматную карону. Барыс Гельфанд "спатыкнуўся" на Аляксеі Дрэеве (Расія), а Купрэйчык павіншаваў з поспехам Кайданава (ЗША).

Пераадолеў стартавы бар'ер Смірын (Ізраіль), зрэшты, выхаванец віцебскай шахматнай школы. Ён прымусіў капітуляваць вядомага міжнароднага майстра Нібоера з Галандыі. На жаль, не маем інфармацыі, як гулялі Карпаў (Расія), Ціман (Галандыя), Адамс (Вялікабрытанія), Ананд (Індыя). Аб канчатковых выніках турніру пастараемся паведаміць у адным з бліжэйшых нумароў.

М.НЕСЦЕРАЎ.

◆ *БЕЛАРУСЫ Ў МАСКВЕ*

### УЗЫХОДЖАННЕ НА НАВУКОВЫ АЛІМП

Бліскуча абараніў доктарскую дысертацыю ў Інстытуце сусветнай літаратуры імя М.Горкага беларускі прафесар Вячаслаў Рагойша. Тэмай яго работы стала навуковае даследаванне "Беларуская літаратура XX стагоддзя ў кантэксце ўсходнеславянскіх літаратур".

В. Рагойша — вядомы беларускі вучоны і грамадскі дзеяч. Яго імя добра ведаюць студэнты-філолагі Белдзяржуніверсітэта. Як адзін з арганізатараў і кіраўнікоў цэнтра імя Францыска Скарыны, ён вельмі шмат робіць для прапаганды нацыянальнай мовы, літаратуры, культуры. Сёння ён прызнаны і адным з вядучых вучоных у галіне сусветнай славянскай літаратуры.

Белінфарм.

**ПАДПІСКА на «ВІЦЕБСКІ РАБОЧЫ» ПРАДОЎЖАНА да 15 СНЕЖНЯ.**

### АКЦЫЯ МІЛАСЭРНАСЦІ

Ва ўсім свеце кожны год 3 снежня адзначаецца Міжнародны дзень інвалідаў. У Віцебску вось ужо некалькі год запар у гэты дзень па ініцыятыве гарадскога таварыства інвалідаў пры падтрымцы гарадскіх улад праводзяцца акцыі міласэрнасці.

2 снежня г.г. з 11 гадзін раніцы ў будынку абласной філармоніі будуць чакаць усіх, хто мае патрэбу ў матэрыяльнай і духоўнай падтрымцы. Абавязак "здаровага" грамадства працягнуць руку дапамогі тым, хто не ў стане сам пераадолець тыя цяжкасці, якія склаліся ў выніку хваробы. Сённяшняе жыццё нялёгкае для многіх, але найбольш цяжэй інвалідам, бо яны, што ні гавары, усё ж абдзелены ўвагай і падтрымкай. Хаця і праводзяць органы па сацыяльнай абароне немалую работу па аказанню дапамогі інвалідам, але гэтага, на жаль, недастаткова.

Галоўная задача гэтай дабрачыннай акцыі заключаецца ў тым, каб даць магчымасць фізічна абдзеленым людзям адчуць да сябе ўвагу і клопат. Напачатку свята Беларускі тэатр "Лялька" прапануе спектакль па казцы Р.Кіплінга "Сланяня", потым Тэатр гульні гарадскога цэнтра культуры і адпачынку запросіць усіх на цікавае тэатралізаванае прадстаўленне. А ў 16 гадзін адбудзецца дабрачынны вечар, прысвечаны Сусветнаму дню інвалідаў, з канцэртам, аўкцыёнам і латарэяй. У музычнай гасцінай будзе экспанавацца выстаўка мастакоў-інвалідаў.

Калі хто-небудзь з вас, паважаныя чытачы, захоча дапамагчы гэтым людзям, грошы можна пералічыць на спецыяльны рахунак падтрымкі інвалідаў 000609213 у Чыгуначным аддзяленні Віткамбанка (МФО 150801706).

## Экспрэс-інфармацыя

*З багажніка аўтамабіля народнага дэпутата РБ галоўнага рэдактара "Народнай газеты" І.Сярэдзіча разам з рэчамі былі выкрадзены сакрэтныя і зусім сакрэтныя дакументы. На 9 лістах была інфармацыя, сабраная ваеннай контрразведкай, у якой утрымліваўся "кампрамат" на кіраўніцтва пагранвойск Рэспублікі Беларусь, а таксама раскрывалася структура і спецыфіка работы вартавых граніцы. Грабежнікі, двое раней судзімых хлопцаў, затрыманы. Ці мог хто іншы азнаёміцца з "чорнай папкай", якая знаходзілася ў грабежнікаў амаль тыдзень? Вось пытанне, якое хвалюе многіх. І галоўнае — адкуль з'явіліся ў І.Сярэдзіча зусім сакрэтныя матэрыялы?*

**Апошняй надзеяй магіляўчан стаў тралейбус. Цяпер рух маршрутных гарадскіх аўтобусаў ажыццяўляецца толькі ў гадзіны пік — з 6 да 9-30 і з 15-30 да 20 гадзін. У астатні час аўтобусы дастаўляюць пасажыраў толькі да тралейбусных маршрутаў.**

*У Маскве прайшла прэс-канферэнцыя адвакатаў Аляксандра Руцкога, Руслана Хасбулатава і Віктара Баранніктава. Адзін з адвакатаў адзначыў, што пры штурме "Белага дома" прымянялася вакуумная зброя, якая мае вялікую сілу паражэння і не пакідае ніякіх слядоў. Адвакаты заявілі, что следства разглядае толькі адну версію. А ў той жа час у дзеяннях прэзідэнта праглядваецца тры саставы злачынства: перавышэнне ўлады, здрада Радзіме ў форме змовы з мэтай захопу ўлады. Па словах адвакатаў, падследчыя ўтрымліваюцца ў турме нядрэнна. Р.Хасбулатаў піша навуковую манаграфію.*

**Украінскі легкаатлет Сяргей Бубка збіраецца адкрыць у Францыі універсальны спартыўны комплекс. У ім будуць спартыўныя залы, сауна, сталовая, рэстаран.**

*Дзесяткі тысяч судовых іскаў уладальнікаў ваўчараў, якія папаліся ў сеткі махляроў, будуць разгледжаны ў бліжэйшы час у Маскве. Разглядам прэтэнзій толькі да аднаго акцыянернага таварыства "Тэхнічны прагрэс", якое "надула" каля чвэрці мільёна ўладальнікаў, заняліся 9 народных судоў. Дарэчы, статутны фонд гэтага таварыства меў усяго 14 тысяч рублёў замест неабходнага сто тысяч. Усяго расіян "надулі" з ваўчарамі ўжо на 29 мільярдаў рублёў.*

**155 фальшывых разліковых білетаў Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь вартасцю ў 500 рублёў выяўлены ў гэтым годзе. Арыштавана група фальшываманетчыкаў з дзесяці чалавек. Пры вобыску канфіскаваны разліковыя білеты на суму 7 мільёнаў рублёў, наркотыкі. Касцяк групы складаецца з азербайджанцаў, якія маюць судзімасць.**

*У Польшчы затрыманы за розныя злачынствы і чакаюць суда звыш 700 чалавек з пашпартамі краін былога Савецкага Саюза. Амаль усе яны дабіваюцца, каб іх судзіў польскі суд і каб яны адбывалі пакаранне ў турмах гэтай краіны.*

**Адказны супрацоўнік МУС Украіны паведаміў, што на Чарнобыльскай АЭС былі ўкрадзены два трохметровыя ўранавыя стрыжні. Зладзеі пакуль не знойдзены, невядома нават, калі гэта зроблена. Прапажа ацэньваецца больш як у мільён долараў.**

Па матэрыялах інфармацыйных агенцтваў, рэспубліканскіх і замежных газет.

**Неспрыяльныя па геафізічных фактарах дні ў снежні:**
1-га *з 10 да 11*; 5-га *з 11 да 13*; 13-га *з 8 да 10*; 19-га *з 12 да 14*; 21-га *з 12 да 15*; 27-га *з 23 да 24*.

◆ ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ

# Азарт... у паўмільярда

Такое даводзілася бачыць хіба што ў кінафільмах пра норавы там, "за бугром". А нядаўна можна было назіраць наяве і ў памяшканні Наваполацкага гарвыканкома, дзе ў невялікай зале, прызначанай для паўафіцыйных сустрэч і дзелавых нарад у вузкім коле праходзіў аўкцыён. Першы ў Наваполацку, першы ў вобласці і ці не шосты наогул у рэспубліцы. Наваполацк прадаваў у прыватныя рукі тое-сёе са сваёй камунальнай уласнасці і з правоў на будучую ўласнасць. Прадаваў не таму, што ўсё гэта гораду не трэба, лішняе. Не таму, каб патрапіць нейкім групам, якія хочуць нажывацца і наогул вяршыць нейкія эгаістычныя справы на шкоду гараджанам. Наадварот, каб належным чынам запрацавалі тыя прадпрыемствы, якія не даюць амаль ніякай выгады ні гораду, ні гараджанам, каб паявіліся новыя гандлёвыя кропкі, новыя паслугі насельніцтву — гарадскі бюджэт проста ўжо не цягне некаторыя аб'екты, што раней так-сяк яшчэ ўдавалася падтрымліваць на плаве за кошт пастаянных уліванняў для кампенсацыі страт.

Прадаваліся памяшканні калгаснага рынку, недабудаваныя адміністрацыйна-гандлёвыя будынкі, магазін "Аўтазапчастка" з крытай аўтастаянкай, а яшчэ месцы для пабудовы аўтастаянак і кіёскаў.

Аўкцыёну папярэднічала салідная падрыхтоўка. Рэклама аб ім гучала па рэспубліканскім радыё, змяшчалася ў мясцовай прэсе. Спецыяльна створаная камісія праводзіла ацэнку аб'екта. Паступілі заяўкі ад шэрагу фірмаў Наваполацка, Полацка, Мінска. Ні прозвішчы, ні адрасы пакупнікоў, што занялі прызначаныя ім месцы на аўкцыёне, не абвяшчаліся. Яны мелі толькі карткі з нумарам. Хаця публіцы, меншую палавіну якой складалі журналісты, было аўтарытэтна засведчана, што ўсе ўдзельнікі аўкцыёну далі дэкларацыю аб даходах — тут ніякіх прэтэнзій, грошы чыстыя.

Віцэ-прэзідэнт акцыянернага таварыства "Заходняя фірма нерухомасці" М.Трыфанаў, які выступаў у якасці дырыжора аўкцыёну, з самага пачатку торга быў запалонены азартам пакупнікоў. Драўляны малаток хадзіў у яго ная руцэ як сапраўдная дырыжорская палачка. Першы ж лот — магазін "Аўтазапчастка" з крытай аўтастаянкай, стартавая цана якому была вызначана ў 100 мільёнаў рублёў, пайшоў, урэшце, за 145 мільёнаў. Магазін "Сельгаспрадукты" з 67 мільёнаў падаражэў да 127. Права на будаўніцтва аўтастаянкі па вуліцы Маладзёжнай, за якое прапаноўвалася 22 мільёны, было куплена за 29 мільёнаў. А за такую ж стаянку па вуліцы Камсамольскай крок за крокам у доўгай, азартнай цяганіне цану з 5,3 мільёна паднялі да 50,5 мільёна. А вось за права на будаўніцтва адміністрацыйна-гандлёвага будынка на плошчы Будаўнікоў першапачатковым коштам 2 мільёны рублёў схватка была яшчэ больш азартнай. Нумар 33, калі цана дапаўзла пакрысе да 50 мільёнаў, даў рэзкі рывок — прапанаваў 100 мільёнаў. Замінка сярод сапернікаў доўжылася некалькі секунд. Затым стаўкі зноў пайшлі ўверх. Урэшце перамог нумар 23: больш за прапанаваныя ім 112 мільёнаў ніхто ўжо не даў. Заядла ішло спаборніцтва і за права на будаўніцтва чатырох кіёскаў у горадзе.

Калгасны рынак на гэты раз не прадаваўся: на яго не знайшлося прэтэндэнта. У агульным ліку ўдзельнікі аўкцыёну выкладуць каля паўмільярда рублёў. Гэта ледзь не ўдвая больш, чым ацаніў выстаўленыя на аўкцыён лоты гарадскі холдынг-цэнтр. У гарадскі бюджэт пойдуць салідныя дадатковыя сумы.

Наваполацк пачаў рэалізоўваць праграму прыватызацыі, якая была прынята сесіяй гарадскога Савета народных дэпутатаў. З аўкцыёну будуць прададзены і іншыя аб'екты. Форме аўкцыёну аддаецца перавага: тут і шырокая публічнасць, і сумленная канкурэнцыя, і выгада для горада. Выгада ўжо ў тым, што цэны за маёмасць аказваюцца аптымальнымі, а галоўнае — прыватны ўладальнік будзе зацікаўлены, каб укладзеныя грошы хутчэй пачалі працаваць, даўгабуд будзе завершаны, а новыя аб'екты вырастуць хутка. Атрымаюць выгаду гараджане.

Г.КІРЫЛАЎ.

# ЯШЧЭ АДНО НАВАСЕЛЛЕ

На мінулым тыдні на адной з самых ускраінных частак нашага абласнога цэнтра ў пасёлку Тарны адбылося ўрачыстае адкрыццё філіяла паліклінікі тэрытарыяльна-медыцынскага аб'яднання № 3.

Урачыстасць гэтую адкрыў старшыня Першамайскага раённага Савета народных дэпутатаў С.М.Кулажанка. Ён выказаў словы ўдзячнасці будаўнікам і медыкам, якія ўклалі шмат сіл, каб з'явіўся на свет гэты ўтульны двухпавярховы будынак яшчэ адной медыцынскай установы раёна. Дарэчы, гэты аб'ект завяршае сёлета выкананне праграмы "Здароўе". На мітынгу выступіў галоўны ўрач тэрытарыяльна-медыцынскага аб'яднання № 3 В.В.Буянаў. Цёплыя словы ў адрас будаўнікоў, кіраўнікоў раённага Савета, дыванова аб'яднання і камбіната шаўковых тканін, медыкаў гучалі і ад імя жыхароў пасёлка...

Узводзіўся сам будынак гады два. Нялёгкая гэта была будоўля. Увесь час узнімаліся цэны. Але ўсё ж будоўлю завяршылі. І вось галоўны інжынер праектна-прамысловага-будаўнічага аб'яднання індустрыяльнага домабудавання "Віцебскжылбуд" К.С.Сугак уручыў сімвалічны ключ уладальнікам новай паліклінікі. А права перарэзаць чырвоную стужку перад уваходам у будынак было прадастаўлена начальніку ўпраўлення аховы здароўя аблвыканкома В.М.Лектараву. І вось загадчыца паліклінікі Л.І.Старавойтава гасцінна запрашае ўсіх прысутных у Палац здароўя (так любоўна медыкі назвалі сваю ўстанову).

Людміла Іванаўна знаёміць з кабінетамі, абсталяваннем новай паліклінікі, яе медыцынскім персаналам. Дарэчы, сама яна справе аховы здароўя аддала ўжо чвэрць стагоддзя. У 1968 годзе скончыла Віцебскі медыцынскі інстытут. Працавала ўчастковым урачом, загадчыцай педыятрычнага аддзялення. Паліклініку прыняла ад сваёй папярэдніцы А.У.Каваленка, якая пайшла на пенсію, але яшчэ працуе ўрачом дзіцячых устаноў. Л.І.Старавойтава па праву лічыць сябе вучаніцай Алімпіяды Уладзіміраўны, якая ўнесла таксама неацэнны ўклад у агульную справу.

Новы філіял паліклінікі будзе абслугоўваць і дзяцей, і дарослых. Тут мяркуецца адкрыць зубаўрачэбны кабінет. Паліклініка будзе расшырацца, бо насельніцтва пасёлка расце.

Такім чынам, пры паліклініцы тэрытарыяльна-медыцынскага аб'яднання № 3 сёння ўжо два філіялы.

А.АЛЕСІН.

На здымках: будынак новага філіяла; у час мітынгу.

Фота Г.ЖУКАВА.

# ЧЫТАЧ-ГАЗЕТА

## Падставы для чутак ёсць

*Нядаўна пабываў у родных мясцінах — на Пастаўшчыне. Там толькі і размовы аб перадачы чыгуначнай станцыі Гадуцішкі суседняй дзяржаве Літве. Нічога я не змог сказаць сваім землякам, бо ніякай інфармацыі не маю. Што можаце паведаміць аб гэтай праблеме?*

А.МАРКУС.

г. Наваполацк.

Інфармацыя аб гэтым з'явілася ў рэспубліканскіх газетах, у прыватнасці, у "Звяздзе". У ёй гаворыцца, што перадача станцыі Гадуцішкі нібыта была вырашана ў час сустрэчы ўрадавых дэлегацый, але Старшыня Вярхоўнага Савета С.Шушкевіч адмаўляе ў афіцыйнай інфармацыі аб гэтым. У такіх умовах, вядома ж, ёсць дзе разгуляцца чуткам. І яны пайшлі, перш за ўсё там, дзе гэта тычыцца канкрэтна людзей.

Сапраўды, варта паглядзець на карту, каб зразумець, якія нязручнасці чакаюць жыхароў, калі станцыя пяройдзе суседняй дзяржаве. Не будзем удавацца ў далёкую гісторыю, каму і калі належала гэтая тэрыторыя. Кожны з бакоў можа выкласці аргументы, але да чаго гэта можа прывесці, варта вымавіць адно слова — "Карабах". Значыць, трэба ўлічваць рэаліі сённяшняга дня. Станцыя і чыгунка знаходзяцца на беларускай тэрыторыі. Пасёлак Адуцішкес — гэта ўжо па той бок граніцы.

Дык вось, сёння ў той пасёлак, дзе знаходзіцца касцёл (трэба перайсці чыгуначнае палатно), не могуць трапіць вернікі — на граніцы патрабуюць долары ці літы, а дзе яны ў састарэлых людзей? Значыць, разважаюць яны, калі і станцыя стане літоўскай, плаці валюту, каб дабрацца да Пастаў ці Віцебска.

Цяжка нават уявіць, колькі ўзнікне праблем, калі станцыя пяройдзе Літве. Тады кожны, хто будзе ехаць па чыгунцы з Пастаў у Лынтупы, акажацца на тэрыторыі іншай дзяржавы. Мытня, пагранічнікі, тарыфы на шляху з аднаго сельсавета ў другі? Гэта ўжо занадта. Вось людзі і хвалююцца. І ніхто ім не растлумачыць, як будзе вырашана праблема. А актывісты з Літвы тым часам стараюцца. Яны ўжо ходзяць па вёсцы Крукі, якая побач са станцыяй, і збіраюць подпісы аб далучэнні гэтага населенага пункта да суседняй дзяржавы. Са станцыяй Гадуцішкі, лічаць, ужо ўсё вырашана. Ці так гэта? Людзі чакаюць тлумачэння ад афіцыйных асоб.

## Дзе нельга гандляваць?

*Сёння ўсе пачалі гандляваць чым толькі могуць. З-за спекулянтаў няма дзе прайсці. Ганлююць на прыпынках гарадскога транспарту, у дварах дамоў і г.д. Ці мяркуецца навесці які-небудзь парадак у гэтым "гандлі"?*

А.МАРКІН.

г. Віцебск.

Абласны Савет народных дэпутатаў прыняў у сувязі з гэтым адпаведнае рашэнне. Згодна з ім, не дапускаецца гандаль ва неўстаноўленых для гэтага месцах. Так, напрыклад, гандаль з рук на вуліцах, плошчах, у дварах, пад'ездах, скверах і іншых неўстаноўленых месцах караецца спагнаннем штрафу ў памеры дзвюх мінімальных зарплат з канфіскацыяй або без канфіскацыі прадметаў гандлю.

Гандаль з латкоў, аўтамашын, а таксама з выкарыстаннем іншых прыстасаванняў на вуліцах, плошчах і ў іншых месцах без адпаведнага дазволу можа абысціся для парушальнікаў папярэджаннем ці спагнаннем штрафу ў памеры да трох мінімальных зарплат. Такім жа чынам караецца і гандаль з рук ва неўстаноўленых месцах прамысловымі таварамі, прычым з канфіскацыяй прадметаў гандлю.

І трэба зазначыць, што ў апошні час мы ўжо сталі сведкамі таго, што гэтае рашэнне пачало выконвацца і ў Віцебску. Можна, напрыклад, спакойна прайсці сёння каля так званага "сіняга дома", не зачапіўшыся за скарбы мясцовых карабейнікаў. Ды і ў іншых месцах іх стала менш. Будзем спадзявацца, што парадак у гэтай справе будзе наведзены паўсюдна.

## Калі запросяць з-за мяжы...

*Які тэрмін афармлення дакументаў для паездкі за мяжу па выкліку?*

В.МАХРОВА.

г.Віцебск.

Як нам паведаміў начальнік аддзела пашпартнай работы і віз і дазволаў упраўлення ўнутраных спраў аблвыканкома С.М.Панкратаў, такія дакументы афармляюцца на працягу месяца. А ў тэрміновым парадку (з прычыны хваробы ці смерці) — на працягу трох дзён.

◆ ЖЫЦЦЁ ДЫЯСПАРЫ

# Да праваслаўных беларусаў

У Маскве адбылася прэзентацыя новага часопіса "Праваслаўе ў Беларусі і свеце", заснаванага Беларускім праваслаўным брацтвам трох віленскіх пакутнікаў, Польскім кірыламяфодзьеўскім праваслаўным брацтвам і прадстаўнікамі беларускіх праваслаўных цэркваў замежжа.

На сходзе прадстаўнікоў беларускіх зямляцтваў і аб'яднанняў выступіў адзін з заснавальнікаў часопіса кіраўнік Беларускага праваслаўнага брацтва трох віленскіх пакутнікаў Мікалай Матрунчык:

— Галоўная мэта новага выдання — аб'яднанне ўсіх праваслаўных беларусаў свету, — сказаў ён. — На старонках часопіса будуць адточвацца і ўдасканальвацца беларуская багаслоўская думка, асвятляцца разнастайныя пытанні беларускай царкоўнай гісторыі.

Масква.

Ірына ГАРАНІНА,
Белінфарм.

# Прыбавілася малодшых камандзіраў

У размяшчэнні 72-га вучэбнага цэнтра Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь пад Барысавам прайшоў урачысты выпуск курсантаў, якія закончылі курс абучэння. На кароткім мітынгу, прысвечаным гэтай падзеі, выступілі афіцэры і ўчарашнія курсанты, прадстаўнікі Міністэрства абароны і мясцовых улад, бацькі выпускнікоў. Нягледзячы на моцны мароз, словы, што гучалі з трыбуны, былі самымі цёплымі. У завяршэнне ўрачыстасці малодшыя камандзіры прайшлі перад трыбунай строем, пасля чаго ім былі ўручаны пасведчанні і нагрудныя знакі класных спецыялістаў.

Белінфарм.

◆ РАДЗІМЫЯ ПЛЯМЫ

# Трагедыя ў Петрашах

Гэтая трагедыя ўскалыхнула не толькі вёску Петрашы саўгаса "Іскра", а і хваляй пракацілася па Талачынскаму раёну, пацвердзіла вядомую, здавалася б, такую простую ісціну: амаральныя паводзіны нікога да дабра не давядуць.

...Калі пажарныя падраздзяленні прыбылі ў вёску Петрашы, дом сямідзесяцідвухгадовага Сцяпана Васільевіча Пішчуліна быў ахоплены полымем. Пажарная тут жа ўключыліся ў барацьбу з агнём, а інспектар аддзялення Дзяржпажнагляда маёр унутранай службы А.М.Равяка пачаў высвятляць, ці не застаўся хто ў палаючым доме. Непакоіла, што знік гаспадар і яго трохгадовая праўнучка Юля Еўпак. А раптам там, у агні? Астатнія двое праўнукаў Сцяпана Васільевіча — чатырохгадовы Дзіма і зусім маленькая Света — знаходзіліся тут жа, навідавоку. А дзе ж дзядуля і малая Юля?

Іх знайшлі пасля ўжо, калі ліквідавалі пажар. Абгарэлае цельца Юлі — на печы, труп Сцяпана Васільевіча — на рэштках падлогі. Хутчэй за ўсё, ён выносіў дзяцей з палаючага дома. Свету і Дзіму вынесці паспеў, а апошнюю, Юлю, не змог. Памкнуўся за ёю ў агонь і дым, там і застаўся...

Што ж здарылася ў Петрашах? Чаму малыя дзеці засталіся з састарэлым прадзедам? Можа, у іх не было бацькоў?

Маленькая Света, якой нядаўна споўнілася год і сем месяцаў, ведае, што маці ў яе ёсць, завуць яе Іра. І Дзіма таксама пацвердзіць, што ў яго ёсць маці, толькі імя ў яе іншае — Лілія. Праўда, бачыць Дзіма маму даволі рэдка, бо тая часта знікае на цэлыя суткі, а то і болей, пакідае яго з сястрычкай Юляй на свайго дзеда, Сцяпана Васільевіча. Вось і ў той дзень Лілія Еўпак спакойна пакінула малых, паляцела вольнай птахай шукаць прыгод. Не было дома на той час і малодшай унучкі Сцяпана Васільевіча Ірыны Кузьміч, якая адправілася з кавалерам у лазню.

Дзед іх, такім чынам, застаўся ў доме адзін з трыма маленькімі дзецьмі. А тут тэрмінова спатрэбілася старому наведаць суседку Анюту Шастак. Магчыма, гэтых некалькіх хвілін і хапіла малым гарэзам, каб знайсці запалкі і... Астатняе ўсё вядома.

М.БАШАРЫМАЎ.

# РЭКЛАМА . АБ'ЯВЫ . РЭКЛАМА . АБ'ЯВЫ . РЭКЛАМА .




*Заснавальнік — працоўны калектыў рэдакцыі*
*Галоўны рэдактар У. Р. СКАПА*



**210601, ГСП, г. Віцебск, вул. Гогаля, 17**





прыёмная рэдактара—37-34-40, намеснік рэдактара—37-06-89, камерцыйны дырэктар—37-33-06, сакратарыят—37-02-11, 37-45-63, аддзел пісьмаў і сувязей з чытачамі—37-30-43, служба навін—37-31-56, аглядальнікі: па пытаннях работы Саветаў народных дэпутатаў—37-01-45, па пытаннях грамадска-палітычнага жыцця—37-31-56, па пытаннях культуры, адукацыі і нацыянальнага адраджэння—37-74-43, па прамыслова-эканамічных пытаннях—37-06-54, па пытаннях сельскага жыцця—37-06-54, па пытаннях маралі і права—37-31-34, па пытаннях ваенна-патрыятычнага выхавання—37-35-44, аддзел ілюстрацыі і афармлення—37-02-11, рэдактар "Рекламного приложения"—37-45-63, бухгалтэрыя—37-03-69, старшы інспектар па аб'явах—37-21-60. Карэспандэнцкія пункты: Орша—2-42-98, Полацк—4-52-47, Глыбокае—2-19-33, Шуміліна—2-12-40.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні неабавязкова адлюстроўваюць пункт гледжання рэдакцыі.

Газета выходзіць па аўторках, серадах, пятніцах і суботах.

Набрана і звярстана МКП «ФАРМАТ». Надрукавана афсетным спосабам у абласной узбуйненай друкарні імя Камінтэрна. Віцебск, Шчарбакова-Набярэжная, 6. Аб'ём — 1 друкаваны аркуш. Фармат А3. Індэкс 63913. Тыраж 23389. Зак. 153.

«ВИТЕБСКИЙ РАБОЧИЙ»— областная независимая массовая газета. На белорусском языке.




МЫ ПРИГЛАШАЕМ коллективы предприятий, организаций, кооперативов и фирм, всех деловых людей использовать страницы газеты для рекламы своей продукции, услуг, коммерческой деятельности, бартера.
Наш адрес: 210601, ГСП, г. Витебск, ул. Гоголя, 17.
К Вашим услугам «Віцебскі рабочы».
Тел.: 37-45-63, 37-06-89, 37-21-60.



Коллектив областного психоневрологического диспансера выражает глубокое соболезнование заведующему кафедрой психиатрии Витебского мединститута профессору Кирпиченко Александру Андреевичу в связи со смертью сестры.

Коллектив областного учебно-курсового комбината облсельхозпрода выражает глубокое соболезнование и.о. директора Пискунову Сергею Николаевичу в связи со смертью матери.